© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# НІВА

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ Б.Г.К.Т.

№ 47 (560) ГОД XI БЕЛАСТОК, 20 ЛІСТАПАДА 1966 г. ЦАНА 60 ГР.

З нагоды Дня Настаўніка усім нашым мілым і слаўным педагогам шлем самыя сардэчныя прывітанні і пажаданні далейшых плённых вынікаў у адказнай настаўніцкай працы, непагаснай ахвоты да грамадскай дзейнасці і шчасця ў асабістым жыцці.

ГАЛОЎНАЕ ПРАЎЛЕННЕ БГКТ
РЭДАКЦЫЯ «НІВА»

## Мая настаўніца

Я не забуду ніколі
Сшыткі, пенал і буквар,
Першыя радасці ў школе,
Першай настаўніцы твар.

Я не забуду ніколі
Рукі яе, што вялі
Нас, як па роднаму полю
Па неабсяжнай зямлі.

Рукі яе, што адкрылі
Сцежкі да горных вяршынь,
Нас, як магутныя крылы,
Неслі да зорных вышынь.

Я не забуду ніколі
Ясных і добрых вачэй.
Можа ад іх наваколле
Стала шырэй і ярчэй.

Першай настаўніцы слова,
Дзе мне не здарыцца быць,
Так, як і матчыну мову,
Нельга ніколі забыць.

*С. Грахоўскі*

## З жыцця БГКТ

### Настаўнікі і БГКТ

**У дзейнасці Беларускага грамадска-культурнага таварыства роля настаўнікаў аграмадная. Многія з іх з'яўляюцца выкладчыкамі беларускай мовы, прывіваюць любоў да роднага слова, да літаратуры і культуры. Многія настаўнікі з'яўляюцца старшынямі і членамі праўленняў гурткоў. Яны надаюць тон у працы гурткоў. А роля настаўнікаў у мастацкай самадзейнасці — проста невымерная. Толькі дзякуючы ім існуе многа мастацкіх калектываў з беларускім рэпертуарам. А драмгурткі пад іх кіраўніцтвам з кожным годам павялічваюць свой мастацкі ўзровень.**

**Няма ў нас такога праўлення аддзела, каб у яго складзе не было настаўнікаў. А Гайнаўскі аддзел БГКТ узначальвае настаўнік Аляксандр Іванюк. Намеснікам старшыні Сямяціцкага аддзела з'яўляецца таксама настаўнік Анатоль Мартыновіч.**

**У складзе Галоўнага праўлення настаўнікаў — 11 чалавек. А калі зважыць тое, што ГП БГКТ налічвае 38 чалавек, дык працэнтная колькасць настаўнікаў у ім даволі вялікая. У камісіях культуры і прапаганды таксама ёсць настаўнікі. А дзевяціасабовая камісія асветы ўся настаўніцкая. (мх)**

### Святкаванне Вялікага Кастрычніка

**У сувязі з 49-ай гадавінай Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі ў памяшканні Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства 5-га лістапада адбылося ўрачыстае пасяджэнне. З дакладам выступіў сакратар ГП Уладзімір Юзвюк. Удзельнік Кастрычніцкай рэвалюцыі Калістрат Хіліманюк расказаў прысутным аб бітвах маладой Чырвонай Арміі з белагвардзейцамі.**

**У артыстычнай частцы выступілі: дэкламатарша Галена Кейч, балетная група рускага таварыства і хор гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку. Пасля ўрачыстага пасяджэння адбылася вечарына для актыву гарадскога аддзела БГКТ.**

### У Саколцы

**Таксама вечарынай для актыву адзначыў 49 гадавіну Кастрычніцкай рэвалюцыі Сакольскі аддзел БГКТ.**

### Дэбют хора

**Хор гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку пад мастацкім кіраўніцтвам Міхася Ануфрыева, пасля месячнай падрыхтоўкі, 5-га лістапада даў свой першы публічны канцэрт для рабочых фабрыкі «Пшыжонды і ухвыты».**

### Белая нядзеля

**У рамах супрацоўніцтва медыкаў з ГП БГКТ трох маладых лекараў 30-га кастрычніка наведалі Паўлы ў Бельскім павеце і бясплатна даследвалі многіх жыхараў гэтай вёскі. (мх)**



## Заўсёды малады

Вінцук Маркевіч працуе настаўнікам 36 год. 36 год свайго жыцця аддаў ён школе, выхаванню падрастаючага пакалення.

— А колькі ўрокаў далі вы за ўвесь час сваёй работы? — запытаў я ў яго. Настаўніку на гэта пытанне адказаць было цяжка. Дайшлі мы супольна да вываду, што гэтых урокаў налічыцца каля 20 тысяч, а можа нават і больш. А ў сябра Маркевіча, так як і ў кожнага таленавітага педагога, кожны ўрок — гэта саракапяцімінутная навела са сваім сюжэтам, са сваёй кульмінацыяй, са сваёй развязкай. За 36 год настаўніцкай працы прыходзілася яму быць выкладчыкам усіх прадметаў, якія прадбачваліся школьнай праграмай. Яго вочы заўсёды загараліся агнём радасці, калі вучні добра адказвалі на ўроках, калі адчуваў ён, што яго выхаваўчыя прыёмы ўздзейнічаюць на розум і сэрцы вучняў. Вінцука Маркевіча абдарыла прырода здольнасцямі да песні, да музыкі і танца. А ў працы настаўніка гэта вельмі важна, бо пры дапамозе музыкі і танца знайшоў ён дарогу ў душы дзяцей. Дзякуючы яму ў тапалянскай школе заўсёды існавала моцная харавая і танцавальная група. Але не толькі ў школе. Многа часу прысвячае ён моладзі. Дзякуючы яму, у Тапалянах на высокім узроўні мастацкая самадзейнасць. А вось толькі некалькі прыкладаў. Ужо ў 1947 годзе на павятовым аглядзе ў Беластоку, дзе выступала 16 аматарскіх калектываў, тапалянскія самадзейнікі заваёўваюць першае месца. У 1958 годзе старшыя класы і моладзь з'яўляюцца прадстаўнікамі Беластоцкага ваяводства на цэнтральным аглядзе спулдзельчых мастацкіх калектываў у Варшаве.

У 1961 годзе Вінцук Маркевіч арганізаваў у Тапалянах школу сельскагаспадарчай падрыхтоўкі (СПР). Яго сямікласнікі маюць магчымасць далей працягваць вучобу ў гэтым жа школьным будынку.

І вось з гэтай моладзі Вінцук Маркевіч стварыў калектыў песні і танца, які прыняў назву «Чырвоныя камізэлькі». Аб іх ідзе ўжо добрая слава не толькі ў павеце.

З нагоды 10-годдзя СПР-аў на Беласточчыне на канцэрце юбілейнага з'ез-

(Працяг на стар. 4)

## У школе настаўнікаў

**У гэты дом у ціхі мілы клас,
Напэўна, я зайду яшчэ не раз.
Шуміць тут сёння новая сям'я
І школе роднай пакланюся я.
(«Родная школа» К. Кірэенка)**

Толькі стаўшы дарослымі, мы здольны па-сапраўднаму ацаніць самаадданасць школьных настаўнікаў. Іменна самаадданасць, таму, што доўгія гады аддзяляюць ад настаўніка галоўны яго вынік старанняў. Іменна гэта і звязвае нас са школаю і настаўнікам, заставіляе ганарыцца за сваю школу. Гэта і завяло ніжэй падпісанага да сваёй роднай школы — **Педагагічнага ліцэя ў Бельску Падляшскім.** Бельскі педліцэй безупынна ад 14 год выпускае кваліфікаваных настаўнікаў для беларускіх школ. Сёлеташні Дзень Настаўніка святкуе каля 400 абсальвентаў. А чым зараз жывуць вучні — будучыя настаўнікі? — хвалявала мяне пытанне. Цікавасць маю заспакоіў дырэктар **Мікалай Канашынскі,** які расказваў аб працы і занятках вучняў.

### АГРАБІЯЛАГІЧНЫ КРУЖОК

Праца — гэта поле дзейнасці і традыцыя школы. Але не толькі. Генеральная справа — гэта сувязь з асяроддзем будучага настаўніка, а добрую і карысную сувязь можа наладзіць настаўнік, які будзе падрыхтаваны да жыцця. Іменна гэта маючы на ўвазе дырэктар М. Канашынскі вядзе аграбіялагічны гурток.

— Наш гурток налічвае 37 вучняў. Так складаецца, што гэта перад усім моладзь з «беларускіх класаў», і мне з імі дасканала працуецца, — гаворыць дырэктар. А ёсць чым і пахваліцца. Педліцэй у Бельску гэта асноўны **прапагатар чорнай смародзіны** і не толькі ў павеце, але ў ваяводстве, а нават і краіне. За пяць год толькі чорная смародзіна прынясла школе **180 тысяч зл. даходу.**

(Працяг на стар. 5)

**У НУМАРЫ**

**Новая дакументальная шпіёнская аповесць „Г-20" просіць дапамогі**

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

# СВЕТ

## ТРЫВОЖНЫЯ ВЕСТКІ

Многія газеты каменціруюць вынікі выбараў у заходнегерманскай зямлі Гесен. У каментарыях выказваецца трывога ў сувязі з поспехам у гэтых выбарах неанацыстаў з «нацыянал-дэмакратычнай партыі» (НДП). Атрымалі яны 225 тысяч галасоў, гэта значыць 8% усіх галасоў выбаршчыкаў. Неанацысты атрымалі 8 мандатаў. Цяпер НДП упершыню будзе прадстаўлена ў ландтазе (парламенце) адной з зямель ФРГ. Безумоўна, выйграць выбары на адной зямлі — гэта яшчэ не ўсё. Трэба дадаць, што супраць неанацыстам дэманстравалі ў ФРГ студэнты. Некаторыя гавораць, што гісторыя два разы не паўтараецца, і таму перамога ў Гесен нічога не азначае. Але нам **нельга забываць аб гэтым, што Гітлер сваю дзейнасць і кар'еру пачынаў іменна ад перамог у такіх дробных выбарах.**

## ПАСЛЯ ВЫБАРАЎ У ЗША

Ніхто з назіральнікаў не прадбачваў спецыяльных змен пасля выбараў у ЗША. Так і сталася. Да выбараў прыступіла дзве партыі — дэмакратычная і рэспубліканская. Па пытанню вайны ва В'етнаме, якое найбольш хвалюе амерыканскі народ, па-сутнасці абедзве партыі падтрымліваюць амерыканскую агрэсію.

Сярод выбаршчыкаў не было акрэсленай праказы. Кандыдаты ў паасобныя ўстановы самі замазвалі міжпартыйныя розніцы. Напрыклад, некаторыя кандыдаты з рэспубліканскай партыі выігрывалі выбарчыя паядынкі таму, што прапаведвалі погляды ў справе в'етнамскай вайны больш памяркоўныя, чым кандыдаты дэмакратычныя. **Вынікі выбараў сведчаць аб тым, што рэспубліканская партыя стварыла толькі больш пасьяховую апазіцыю, але гэтага замала, каб змяніць унутраную ці заграпічную палітыку. Нягледзячы на пругкую апазіцыю, Джонсан у далейшым будзе прадаўжаць дагэтуляшнюю палітыку.**

## СТАРЫ МЕТАД

Пастаянны прадстаўнік ЗША у ААН Гольдберг выбіраецца ў падарожжа да краін паўднёва-ўсходняй Азіі, а перад усім у Паўднёвы В'етнам. Мэтай гэтага падарожжа — шуканне дарог мірнай развязкі ў В'етнаме. Ці гэта падарожжа можа прынесці добрыя вынікі? Не, таму што Гольдберг не возьме з сабой ніякіх новых прапаноў. Заходнія каментатары сцвярджаюць, **што гэтае чарговае падарожжа кончыцца фіяскам. І што на гэтым фіяску іменна і залежыць Джонсану.** Хоча ён даказаць, што «бачыце, мы мелі добрую волю, але не з нашай віны зноў нічога з таго не выйшла».

## КРЭМЛЬ — ЕЛІСЕЙСКІ ПАЛАЦ

9 лістапада падпісана пагадненне аб устанаўленні лініі прамой сувязі паміж Маскоўскім Крамлём і рэзідэнцыяй прэзідэнта Францыі Елісейскім Палацам у Парыжы.

# БССР

## «НІВА» Ў БЕЛАРУСІ

Адкрыта падпіску на нашу «Ніву» ў Беларусі. Гадавая падпіска яе каштуе 2 руб. 20 кап.

## ГАДАВІНА

На Беларусі адбыліся ўрачыстасці прысвечаныя 49 гадавіне Кастрычніцкай рэвалюцыі. У Мінску адбыўся парад войскаў сталічнага гарнізона. Паказана ракетную тэхніку.

## ДЗЕНЬ

Адсвяткавана Дзень савецкай міліцыі. У сувязі з Днём у Мінску адбылася ўрачыстая акадэмія, у якой прыняў удзел Сяргей Прытыцкі, сакратар ЦК Камуністычнай партыі Беларусі, і іншыя афіцыйныя беларускія асабістасці.

44 работнікаў міліцыі атрымалі высокія дзяржаўныя ўзнагароды, м. інш. І. Ерш з Гродна, С. Місюк з Кобрына, У. Валько з Ліды.

## ВІЗІТ

Брэстчыну наведала дэлегацыя Люблінскага ваяводства на чале з першым сакратаром ВК ПАРП Уладзіславам Коздрам і старшынёй Прэзідыума ВРН Паўлам Домбкам. Любліняне наведалі калгас «Аснежыцкі» ў Пінскім раёне, дзе сустрэліся з насельніцтвам, слухалі вялікі канцэрт у іх гонар.

## ПЛЕНУМ

Адбыўся пленум Беларускага рэспубліканскага савета навукова-тэхнічных таварыстваў.

## ГРОДЗЕНСКАЯ

Гродзенская сустрэча была незвычайнай: сустрэліся палітычныя дзеячы, журналісты, кіраўнікі арганізацый з пісьменнікамі, артыстамі, вучонымі, кампазітарамі. Гродна мае актыўнае творчае асяроддзе, якога мог бы пазайздросціць яму наш Беласток.

Сустрэча была прысвечана падрыхтоўцы да пяцідзесяцігоддзя Савецкай улады. Вялікую цікавасць выклікала выступленне вядомага беларускага пісьменніка Аляксея Карпюка, м. інш. аўтара вядомай у нас кніжкі «Пушчанская адысея».

## ВЫСТАЎКА

У рамках «Дзён савецкай культуры» ў Дэмакратычнай Рэспубліцы Германіі адкрыта ў Берліне выстаўку беларускай графікі і вырабаў са шкла.

## ПОМНІК

У вёсцы Малыя Дальцы адкрыта помнік загінуўшым у вайну салдатам-беларусам. Тут толькі з аднаго калгаса «Новае жыццё» не вярнулася з вайны больш васьмідзесяці чалавек.

# ПОЛЬШЧА

## СУСТРЭЧА БЫЛЫХ НЮРНБЕРГСКІХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ

11 і 12 лістапада ў Яблонне каля Варшавы адбылася двухдзённая міжнародная сустрэча былых карэспандэнтаў, якія ў 1945—46 гадах інфармавалі свет аб нюрнбергскім працэсе галоўных гітлераўскіх ваенных злачынцаў. У сустрэчы прыняло ўдзел 40 асоб з розных краін свету. Ініцыятарам сустрэчы быў Польскі нюрнбергскі камітэт. З удзельнікамі з'езду сустрэўся прэм'ер Юзэф Цыранкевіч, які правёў з прысутнымі гутарку на тэму гістарычнага значэння нюрнбергскага працэсу.

## ПАСТАНОВА АБ НОВАЙ 5-ГОДЦЫ

11.XI. пасля трохдзённай генеральнай дэбаты Сейм ПНР прыняў пастанову аб 5-гадовым плане развіцця нацыянальнай гаспадаркі на 1966—1970 гады. У спрэчках, якія закончыліся выступленнем старшыні Камісіі планавання — Стэфана Ендрыхоўскага, прыняў удзел 31 пасол.

Сейм прыняў таксама пастанову аб стварэнні Міністэрства асветы і вышэйшай адукацыі. На міністра новага міністэрства паклікана прафесара Генрыха Яблонскага, датагачаснага Міністра вышэйшай адукацыі.

## РАСПАРАДЖЭННІ МІНІСТЭРСТВА ФІНАНСАЎ

Распараджэннем Міністэрства фінансаў ужо ў гэтым месяцы можна будзе ўсе фінансавыя разлікі праводзіць у пляцоўках ПКО або на поштах. У датагачаснай практыцы адны разлікі можна было рэалізаваць толькі на пошце, іншыя — толькі ў фінансавых аддзелах, а яшчэ іншыя праз Нацыянальны банк польскі.

Апрача таго грамадзяне будуць маглі ў дзяржаўных крамах рабіць разлікі пры дапамозе спецыяльнай чэкавай кніжкі.

## ЗІМОВЫЯ КАНІКУЛЫ

Зімовыя канікулы ў гэтым годзе пачнуцца, як і ў мінулым, 23 снежня і працягвацца будуць да 5 студзеня.

## ПОЛЬСКІ «ФЯТ»

Як падае польскі друк, нашая матарызацыйная прамысловасць пачала супрацоўніцтва з італьянскім канцэрнам «Фят». На падставе падпісанай умовы прадбачыцца прадукцыю новага тыпу аўтамашыны «Фят». Мантаж новай аўтамашыны адбывацца будзе ў фабрыцы легкавых аўтамашын на Жэрані, якая выканае да гэтай аўтамашыны амаль палову частак і механізмаў. Прадукцыя новых аўтамашын пачнецца ў 1968 годзе. У два гады пазней — у 1970 годзе прадбачваюць прадукцыю аўтамашын у колькасці каля 200 штук штодзённа. У.П.

# ВАЯВОДСТВА

## ПАСЛЯ VII ПЛЕНУМА ЦК ПАРП

9 лістапада г.г. у сядзібе Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку адбылася нарада партыйнага актыву і кіраўніцтва буйнейшых прадпрыемстваў Беласточчыны. У нарадзе прынялі ўдзел сакратары: Станіслаў Кудла, Сяргей Рубчэўскі і Вітальд Мікульскі. Удзельнікі нарады абмеркавалі праблемы, якім быў прысвечаны VII Пленум ЦК ПАРП.

## ЮБІЛЕЙ ПКС

Дзяржаўная аўтамашынная пасажырская камунікацыя адзначае свой юбілей: 20-цццігоддзе дзейнасці. Варта тады ведаць, што самаходы ПКС-у ездзяць амаль па ўсіх брукаваных або жвіраваных дарогах Беласточчыны, абслугоўваючы 363 шляхі. Штодзень спыняюцца і забіраюць яны пасажыраў на звыж 1100 прыпынках. Аўтобусамі ПКС у гэтым годзе ехала каля 25 мільёнаў жыхароў ваяводства. ПКС перавозіць не толькі людзей, але і грузы, якія ў гэтым годзе склалі амаль 2 мільёны тон.

## СКЛАДЧЫНЫ НА ПАБУДОВУ ШКОЛ І ІНТЭРНАТАЎ

Жыхары Беластоцкага павета ўжо выканалі свой гадавы план збору складчын на грамадскі фонд пабудовы школ і інтэрнатаў. Найлепшымі аказаліся жыхары Канавалаўскай, Супрасльскай і Ялоўскай грамад. Найменш ахвярныя грамадзяне з грамад: Багданкі і Гарадок.

## У ПАСЫНКАХ

Вёска Пасынкі ў Бельскім павеце з'яўляецца сядзібай ГРН. Прымае яна ўдзел у спаборніцтве «За найпрыгажэйшую сядзібу ГРН». Жыхары Пасынак праявілі вялікую ахвярнасць працуючы грамадскім чынам. Яны пабудавалі тратуар, пасадзілі шмат дрэвак і наладзілі вулічную дарогу.

Кошт усіх прац ацэньваецца на суму ў звыж 260 тысяч зл.

## САКОЛЬСКАЯ ЭСТРАДА

Павятовы дом культуры ў Саколцы намагаецца арганізаваць уласны эстрадны калектыў. Дзеля гэтага быў распісаны конкурс, які мае выявіць маладыя таленты.

## МАЛАДЫЯ ГАСПАДАРЫ

У вёсцы Хэлхова ў Сямяціцкім павеце адбыўся раённы з'езд маладых гаспадароў-курсантаў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі і аграномаў. Абмяркоўвалі яны справы больш выдайнага гаспадаравання.

## СУСТРЭЧА З ПІСЬМЕННІКАМ

Ваяводскае праўленне ССМ у Беластоку ў апошнім часе наладзіла некалькі сустрэч з пісьменнікам Алёйзым Срогай. Адбыліся яны ў вёсках.

# Тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія

NIEDZIELA, 20.XI.

8.30 Politechnika TV. Geometria wykreślna. — „Wielościany"; 9.05 Politechnika TV. Chemia — „Metale w technice"; 9.35 35 lekcja jęz. ros.; 9.55 Politechnika TV. Matematyka — „Pojęcie granicy i ciągłości" cz. II; 11.00 Dla młodych widzów: „Pozdrowienia" dla przyjaciół" (Sofia); 11.45 PKF; 11.55 Wiad. dz. TV; 12.05 Poranek symfoniczny; 12.45 „Album przebojów" — film CSRS; 13.00 Sprawozdanie sportowe; 13.50 „O'Key Polonia" — rep. film; 14.00 „W starym kinie"; 15.00 „Historia dziury w murze" („Piórkiem i węglem"); 15.20 „Przemiany" — mag. Red. Wiejskiej; 15.40 Dla dzieci: — „Uli teoria snów"; 16.05 „Ksiądz Proboszcz" — rep. film. („Ludzie i zdarzenia"); 16.20 Teatr Niedzielny: „Zapis" P. Marivaux; 17.10 „Nic świętego" — felieton literacki A. Sandauera; 17.25 „Szklana niedziela" (I); 17.35 „Portrety"—„Maria Dąbrowska"; 18.10 „Szklana niedziela" (II); 18.15 Międzynarodowy Turniej Tańca Towarzyskiego; 19.10 „Szklana niedziela" (III); 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.00 „Szklana niedziela" (IV); 20.15 Koncert piosenkarski z udziałem solistów Krajów Socjalistycznych; 21.15 Niedziela Sportowa; 21.35 „Ostatnia prosta" — film fab. fr.; 23.05 Wiadomości sportowe.

PONIEDZIAŁEK 21.XI.

16.55 Wiad. dz. TV ;17.00 Dla dzieci: „Zaczarowany ołówek" — film; 17.10 Dla młodych widzów: „Skarby w szufladzie"; 17.30 „Nauczyciele" („7 milionów młodych"); 17.45 „Nos dla tabakiery"; 18.10 Kino Krótkich Filmów; 18.45 „Eureka"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.00 „Ludzie głodnego stepu" — film; 20.15 Teatr TV: „Miarka za miarkę" W. Szekspir; 21.45 „Na półkach księgarskich";21.55 „Kryptonim Jesień" — rep.; 22.20 Dz. TV.

WTOREK 22.XI.

10.55 Dla szkół: (kl. X) Język polski — M. Lermontow „Maskarada" („Dzieje dramatu"); 11.35 „Piramida ludzka" — film fab. fr; 16.00 Politechnika TV. Matematyka: „Funkcje ciągłe i funkcje nieciągłe"; 16.30 Politechnika TV. Matematyka: „Pochodne i jej sens geometryczny i fizyczny" cz. I; 17.00 Wiad. dz. TV; 17.05 Dla młodych widzów: „Zrób to sam"; 17.20 Dla młodych widzów: „Spotkanie z poetą" — teatrzyk żywego słowa; 17.45 Kabaret reklamowy „Pod kaczuszką"; 17.55 TV Kurs Rolniczy: „Zasady uprawy ziemniaków" („Produkcja ziemniaków"); 18.25 „Szukamy przeboju"; 19.00 TV Kurier Warszawski; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.00 „Album SS-obersturmbannführera"; 20.25 „Piramida ludzka"— film fab. fr; 21.55 „Drogowskazy"; 22.20 Dz. TV; 22.35 Program na jutro; 22.40 Politechnika TV. Matematyka — „Funkcje ciągłe i funkcje nieciągłe"; 23.10 Politechnika TV. Matematyka — „Pochodna i jej sens geometryczny i fizyczny".

ŚRODA 23.XI.

9.55 Dla szkół: (kl. VI) Fizyka — „Nacisk i ciśnienie"; 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Fizyka— „Badanie zjawisk ruchu"; 11.30 „Czas ucieka" — film („Dr Kildare"); 15.55 36 lekcja jęz. ros.; 16.20 „Przypominamy, radzimy"; 16.30 PKF; 16.40 „Hallo, Policja" — film rozrywkowy; 16.55 Wiad. dz. TV; 17.00 Dla dzieci: — film; 17.20 Dla młodych widzów: „Pisarska przygoda" H. Ożogowskiej; 17.35 „Nie tylko dla pań"; 17.55 Wszechnica TV: „Za kierownicą"; 18.25 „Obrazki z wystawy" — widowisko baletowe M. Musorgskiego w wyk. solistów i baletu Państw. Opery w Łodzi; 18.55 „Inwestycje" („Olsztyńskie opony"); 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.00 „W głębinach Morza Czarnego" — film radz; 20.15 „Czas ucieka"— film („Dr Kildare"); 21.05 „Światowid"; 21.35 Dz. TV; 21.50 Mały Teatr TV: „Śniadania roku 1944" Wasyla Aksjonowa.

CZWARTEK 24.XI.

10.55 Dla szkół: (kl. VIII) Język polski — „Spotkanie z Jerzym Putramentem" („Spotkania"); 16.25 35 lekcja jęz. franc.; 16.55 Wiad. dz. TV; 17.00 Dla dzieci: Kino „Ptyś"; 17.15 Dla młodych widzów: „Klub pancernych"; 17.40 „Z drugiej strony szklanego ekranu"; 17.55 „Kwadrans zagadek"; 18.10 „Kiedy trzeba podjąć decyzję"; 18.30 „Przegląd muzyczny"; 19.00 „Armaty Generała Bema" — film; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.00 „Studenckie zdrowie" (o działalności studenckiej służby zdrowia); 20.25 Teatr Sensacji: „Noc w szpitalu" — widowisko sensac. szpiegowskie A. Zbycha („Stawka większa niż życie") odc. II; 21.20 „Refleksje"; 21.55 Dz. TV; 22.15 35 lekcja jęz. franc.

PIĄTEK 25.XI.

12.00 Dla szkół: (kl. II) „Pies, twój przyjaciel"; 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Zajęcia techniczne — „Lampa stojąca"; 15.30 „Prowincja — rezerwat" („Wiedza") (Tbilisi); 16.00 36 lekcja jęz. ang.; 16.25 Wiad. dz. TV; 16.30 „Bella i Sebastian" — film; 17.00 Dla dzieci: „Miś z okienka"; 17.15 Dla młodych widzów: „Fizyka na piątkę"; 17.40 Wszechnica TV: „Reportaż z muzeum teatru"; 18.10 „Wielokropek"; 18.25 „Czwarta zmiana"; 19.00 TV Kurier Mazowiecki; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 19.50 Wrocławski Teatr TV: „Wieś Stepańczykowo i jej mieszkańcy" T. Dostojewskiego; 21.15 „10 minut recenzji"; 21.30 „Gala der UNICEF aus Paris"; 22.15 Dz. TV.

SOBOTA 26.XI.

9.55 Dla szkół: (kl. VII) Geografia — „Francja"; 10.25 „Spryciarz" — film fab. ang.; 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Biologia — przewód pokarmowy"; 14.30 Sprawozdanie z międzypaństwowego meczu w hokeju na lodzie ZSRR — Czechosłowacja (Moskwa); w I przerwie ok. 15.15 Dla nauczycieli: „Praca wychowawcy w klasie ósmej" („Problemy wychowawcy"); w II przerwie ok. 16.00 Program tygodnia; 16.55 Wiad. dz. TV; 17.00 „Mierz siły na zamiary"— telekonkurs; 17.45 „Spotkania z przyrodą"; 18.10 „Po szóstej" — TV Klub Młodzieżowy; 18.50 „Warszawa, ja i Ty"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.00 „Tajemnica Luwru" — film („Belphegor czyli upiór Luwru"); 20.25 Program rozrywkowy; 21.20 Dz. TV; 21.45 „Spryciarz" — film fab. ang.



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024



РАЗМОВЫ АБ БЕЛАРУСКАЙ І СУПОЛЬНАЙ КУЛЬТУРЫ

*Якая яна?*
*Дзе яе крыніца?*
*Дзе мае месца ў ёй?*

# Патрабуем саюзнікаў

Інтэрв'ю з **УЛАДЗІСЛАВАМ МАЛЕЎСКІМ — дырэктарам Ваяводскай бібліятэкі ў Беластоку.**

**— Дасягненні Беласточчыны ў чытальніцтве вельмі вялікія. Я б сёння хацела, аднак, пачуць аб ценях, недахопах гэтага чытальніцтва.**

— Першае: папаўненне кнігазбору грамадскіх бібліятэк. Замала купляецца кніжак. Замала Павятовыя рады нарадовыя прызначаюць з бюджэту на іх пакупку.

Другое: памяшканні. 50% нашых бібліятэк змяшчаецца ў неадпаведных пакоях — ніжэй 20 кв. м. І трэба ж у такім памяшканні змясціць ад 3—6 тыс. кніжак. Трэба весці працу. На добрую справу кожная грамадская бібліятэка павінна мець 2 пакоі: пазычальню і чытальню. У нас толькі 40% бібліятэк у грамадах мае сякія-такія чытальні.

Трэцяе: няпоўная сетка грамадскіх бібліятэк. Не хапае нам 28 грамадскіх бібліятэк. Калі б кожны год адкрывалася 6—7 бібліятэк, то ў бягучай пяцігодцы мы б асягнулі патрэбную мінімальную сетку. Але ў 1966 годзе паўстала толькі 3 новыя бібліятэкі.

**— Ці яшчэ ў нейкім ваяводстве ў краіне выступае такая сітуацыя?**

— Калі рэч ідзе аб няпоўнай бібліятэчнай сетцы, то мы на апошнім месцы. А дадаць хачу, што ўвесь гадавы кошт утрымання бібліятэкі складае 15—20 тыс. зл.

**— Як усё ж такі танны гэты элемент развіцця культуры!**

— Асноўны элемент!

**— Чаму ў Галдапскім павеце выдалася на пакупку кніжак у 1965 годзе па 3,21 зл. на асобу (на вёсцы 3,41), а ў Гайнаўскім 1,15 зл. (на вёсцы 0,98 зл.)? Адкуль адны ўзялі, а другія не ўзялі?**

— Гэтае пытанне задайце адносным павятовым уладам.

**— Як вы бачыце перспектывы развіцця беларускага чытальніцтва на Беласточчыне?**

— Нашым заданнем: даць кніжку на роднай мове кожнаму, хто патрабуе. У гэтым напрамку робім многа: лектараты роднай мовы для бібліятэкараў, канферэнцыі, нарады, семінары, аналізы чытальніцтва. Ёсць спецыяльны інструктар. І... напатыкаем на перашкоды. Цяжка атрымаць кніжныя навінкі. Чакаем гадамі на заказы. З другога боку — кніжкі гэтыя не заўсёды памагаюць у развіванні чытальніцтва. Людзі ахвотней чытаюць польскую кніжку, бо яна больш цікавая, больш набліжаная да нашай польскай сучаснасці. Моладзь не надта сядзіць у вёсцы — ездзіць, сутыкаецца ўсюды з польскай мовай і лягчэй ёй чытаць па-польску. Прытым сказаць трэба: няма энтузіязму да беларускай кніжкі, няма імкнення да беларускай літаратуры.

**— Значыць перспектывы не аптымістычныя?**

— Трэба старацца рабіць, што можна, каб кніжкі былі. Але вялікіх перспектыў тут я не бачу. Гэта датычыць усіх нацыянальных меншасцей. І ўсе павінны рабіць намаганні, каб сітуацыю палепшыць. Не ўскладаць усяго толькі на бібліятэкараў. Бібліятэкары патрабуюць саюзнікаў.

**Вера Леўчук**

# Вайскова-гістарычны музей у Беластоку

**Пры Беластоцкім навуковым таварыстве існуе камісія вайсковай гісторыі, старшынёй якой з'яўляецца праф. Гербст з Варшавы, а намеснікам маёр Зыгмунт Каштыла — папулярызатар гістарычных вайсковых ведаў, адначасова старшыня Беластоцкага аддзела польскага гістарычнага таварыства.**

**Стараннем камісіі была арганізавана вялікая выстаўка гісторыі аружжа на Беласточчыне, аб якой мы пісалі. Да паловы кастрычніка выстаўку наведала 15 тысяч асоб. 600 экспанатаў выстаўкі. У тым 200 — уласных камісіі і 400 — ад розных людзей.**

**А вось аб чым паведамляе рэдакцыю маёр Каштыла: «Па ініцыятыве ваяводскіх і гарадскіх улад з экспанатаў выстаўкі паўстане ў наступным годзе Вайскова-гістарычны музей у Беластоку, які будзе базаваць выключна на гісторыі Беластоцкай зямлі. Будзе ён трэцім такога роду ў краіне. Памесціцца пры Алеі 1 Мая над рэчкай Белай паміж вуліцамі Сянкевіча і Касцельнай. Перад будынкам музея на зялёнай плошчы стануць вялікія экспанаты — гарматы, танкі.**

**Чакаем на розныя экспанаты ад людзей, якія ўзбагацяць наш музей». (вл)**

# А беларускі музей мінаюць...

Да музея набліжаецца група экскурсантаў. Старэйшы рахункавод, Гэлена Байка пакідае ГС-аўскую кантору і пераўтвараецца ў грамадскага экскурсавода. Яна маладая і прыгожая, вочы яе радасна смяюцца.

— Асцярожна ступайце па сходах, — папярэджвае яна турыстаў. — Яны гістарычныя, аджылі свой век, могуць паламацца, і вы ногі паломіце.

Хто верыць, а хто проста смяецца разам з сяброўкай Гэленкай. Хаця, праўду кажучы, смяяцца няма з чаго. Дошкі на падмостку ўгінаюцца і трышчаць. Вылазіць наверх «саліднасць» грамадскай працы.

Беларускі этнаграфічны музей наведала дагэтуль **каля тысячы** асоб. **На ПЯЦЬДЗЕСЯТ разоў менш, як Белавежскі музей прыроды.**

Прычына?

Звычайная. Арганізатары і гаспадар белавежскай турыстыкі — ПТТК — **у сваёй праграме не прадбачвае наведвання беларускага этнаграфічнага музея.** Толькі адзін экскурсавод, жонка намесніка дырэктара нацыянальнага парку, **пані Ватола** па ўласнай ініцыятыве запрашае кожную экскурсію, якую яна абслугоўвае, у беларускі музей. Больш ніхто.

Білет у музей каштуе сімвалічную залатоўку. А за хату яе ўласніку трэба плаціць штомесяц па 800 злотых.

Старшыня белавежскага ГС-у цярпліва маўчыць, але яго падуладныя шумяць: навошта нам гэты музей!?

Можна іх зразумець. ГС мае абавязак добра гандляваць, але не мае абавязку прыкладна весці гэтага роду пляцовак, як музей, ды яшчэ з уласнага бюджэту аплочваць яго існаванне. Таму хіба па сённяшні дзень белавежскі музей не мае святла.

Беларускі этнаграфічны музей у Белавежы нарадзіўся дзякуючы каштоўнай грамадскай ініцыятыве. І дрэнна было б, каб культурныя ўлады Беласточчыны аднесліся да яго абыякава. Дагэтуль, на жаль, не праяўлялі яны ніякага зацікаўлення гэтай шматважнай пляцоўкай культурнага характару.

**В. Рудчык**
Фота аўтара.



Гэлена Байка дэманструе экскурсантам, як сялянкі на Беласточчыне труць лён на валакно.



Адзін з экспанатаў — арыгінальныя жорны выдаўбаныя ў дрэве.

# Дружба і праца

**МАЁ і ТВАЁ МАЛЕНСТВА**

**Мы раніцой адбілі гэту вёску.**
**Па вуліцах струменіў сіні чад,**
**А ўжо звінелі галасы дзяўчат**
**У гушчары запыленага войска.**
**Я малака гладыш са смакам выпіў**
**І сеў на прызбе пад старою ліпай,**
**Трымаючы малога хлапчука**
**На дужых і упэўненых руках.**
**Назад, таму, здаецца, чвэртка веку**
**І мне было таксама тры гады.**
**Маленькім сінявокім чалавекам**
**Каменьчыкі збіраў я ля вады.**
**І я вось гэткім быў белагаловым.**
**Такім?**
**О, не!**
**Такіх вачэй суровых,**
**Дзе сталая туга, дзе боль і гнеў,**
**У тры гады ніколі я не меў.**
**Маё маленства!**
**Душны пах чарэмхі,**
**Арэхаў залатых даспелы град...**
**Гукну: «я рад» — і стогалосым рэхам**
**Пацвердзіць гай, што сапраўды я рад.**
**Скажу: «хачу» — і кніга мне належыць.**
**Скажу: «магу» — і сам будую дом,**
**Маленства!**
**Ты гарыш агнём нязлежным,**
**Ты школьным заліваешся званком.**
**Ты заміраеш з вудай над ракою,**
**Пра вандраванні сніш вясною сны.**
**Гучыць пачаткам песні над табою**
**Світальны голас труб берасцяных...**
**Каб вырас я настойлівым, упартым,**
**Радзіма, пахіліўшыся над партай,**
**Цяжкому рамяству мяне вучыла —**
**Тварыць і жыць.**
**І кроў кіпела ў жылах,**
**Настоеная густа на праменні,**
**На водыры гаёў, зарніц і траў.**
**Нядарма для свайго я нараджэння**
**Год дзевяцьсот семнаццаты абраў.**
**Той год адгарадзіў мяне сцяной**
**Ад слова «раб», ад свісту бізуноў,**
**Ад бацькаўскіх нішчымніц,**
**Ад апекі**
**Усемагутнай медзяной капейкі.**
**Плыла, плыла, як човен, праз сады**
**Мая калыска ў сталыя гады...**
**Ды годзе ўспамінаць!**
**Замрыце вершы!**
**Я на руках**
**Трымаю земляка,**
**Народжанага ў годзе сорак першым.**
**Ён нарадзіўся ў рабстве.**
**Ён глядзеў**
**Галоднымі вачмі, як вораг еў,**
**Як вораг піў, як вораг рагатаў,**
**Як нашы кнігі вылюдак таптаў.**
**Не я яму, а ён раскажа мне**
**Пра голад, бяссонніцу і гнеў.**
**Я пана бачыў толькі на малюнках,**
**Я бачыў у музеі ланцугі.**
**А гэтаму малому каты рукі**
**Для жарту заціскалі ў абцугі.**
**Спалоханы, ён дзічыцца мяне,**
**Глядзіць з дапытлівасцю хваравітай.**
**А бацька дзе?**
**А бацька на вайне**
**Атручанаю куляю забіты.**
**Ён не прывычны да мужчынскай ласкі —**
**Ледзь цепліцца удзячная сляза.**
**Мне сорамна яму чамусьці казку**
**Пра зайца і мядзведзя расказаць.**
**Не ён перада мной, а перад ім**
**Сябе адчуў я хлапчуком малым...**
**Але святлом даверлівасці вочы**
**Яснеюць.**
**І, здаецца, хлопчык хоча**
**Сказаць:**
**«Ты бацька мой.**
**Прашу — вярні, вярні**
**Мой першы дзень, мой першы крок нясмелы,**
**Зары вясновай ціхія агні,**
**Вярні калыску — каб матуля пела,**
**І першай птушкі свіст.**
**І першы бляск расы».**
**І я кажу:**
**«Усё вярну, мой сын!»**
**1944 г.**

**Пімен Панчанка**

1. Перадай сваімі словамі змест верша, звярні асаблівую ўвагу на розніцу ў жыцці савецкіх дзяцей пад акупацыяй і ў мірны пасляваенны час.
2. Чаму мы не павінны забываць мінулае?
3. Як мы павінны адносіцца да тых, хто загінуў у барацьбе з захопнікамі?

**Біяграфічны даведнік**

Панчанка Пімен — беларускі паэт. Нарадзіўся ў 1917 годзе. Выдаў кніжкі паэзіі: «Упэўненасць», «Дарога вайны», «Вершы», «Прысяга», «Шырокі свет», «Тысячы небасхілаў», «Неба ўсміхаецца маланкаю».



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

(Працяг са стар. 1)

# ЗАЎСЁДЫ МАЛАДЫ

да, які адбыўся ў дайлідскім сельскагаспадарчым тэхнікуме, з вялікім поспехам выступалі «Чырвоныя камізэлькі». У працу калектыва апрача кіраўніка Вінцука Маркевіча, унеслі свой уклад настаўнікі Яўгень Фільяновіч, які кіруе музычным гуртком (ён з'яўляецца настаўнікам спеву ў пачатковай школе) і Станіслаў Сухадольскі — канферансье калектыву і кіраўнік дэкламатарскага гуртка.

Нядаўна наведалі мы школу. У адной з большых залаў яе мелі магчымасць пачуць песні ўдзельнікаў хору, салістаў, музыкантаў і пабачыць танцораў. Па нашай просьбе ў кракавяку выступіў дырыжор і харэограф у адной асобе Вінцук Маркевіч. Захапляліся мы і калектывам, і тым, што многа музычных інструментаў на чале з перкусіяй, але найбольш тым, што Вінцук Маркевіч у 66 год свайго жыцця адчувае сябе маладым, што ён у час рэпетыцый разам з імі танцуе, што ён садзейнічае фармаванню эстэтычных густаў моладзі.

У час рэпетыцый у гэтай зале на Вінцука Маркевіча і яго навучэнцаў са сцяны глядзіць кампазітар Станіслаў Манюшка і быццам радуецца, што ў гэтай школе любяць музыку.

Аднойчы вечарам мы доўга гутарылі з Вінцуком Маркевічам. Даведаліся, што ў гэтым годзе здаў ён экстэрнам экзамен і атрымаў пасведчанне заканчэння настаўніцкай студыі з напрамкам русыцыстыкі, што днямі іх і суседнія вёскі атрымаюць святло, што ён правёў капітальны рамонт сваёй хаты ў Масцісках, што большасць выпускнікоў СПР-у вучыцца ў сельскагаспадарчых тэхнікумах, што ў час савецкай улады вучыўся ён ў педагагічным інстытуце ў Беластоку.

Вінцук Маркевіч не любіць толькі гаварыць аб гадах даваеннай Польшчы, аб страшных часах нямецкай акупацыі, аб перыядзе станаўлення народнай улады. А гэта таму, што не песціў яго лёс, а вельмі часта ўзвальваў на яго плечы толькі цяжар, быццам выпрабоўваў яго і правяраў, колькі вытрымае гэты чалавек, ці не сагнецца. А ён кожнае гора заўсёды перамагаў.

Вінцук Маркевіч з'яўляецца таксама грамадскім дзеячом: 9 год працаваў радным і быў старшынёю фінансавай камісіі павятовай рады нарадовай. Ад самага пачатку з'яўляецца старшынёй грамадскага камітэта Фронту адзінства народу і заўсёды ў час выбараў — старшынёй выбарчай камісіі.

Наша ўлада за мнагагранную дзейнасць узнагародзіла Вінцука Маркевіча Медаллю дзесяцігоддзя ПНР, Сярэбраным і Залатым крыжамі заслугі.

**Міхась Хмялеўскі**

БЕЛАРУСКАЯ ФІЛАЛОГІЯ Ў ВАРШАВЕ

# Дзесяць год працы

### КРЫХУ ГІСТОРЫІ

У выніку вялікіх намаганняў з боку Таварыства 3 жніўня 1956 года Міністэрства вышэйшай адукацыі дае адказ на пісьмо ГП БГКТ, у якім (адказе) чытаем, што «ад пачатку 1956/57 навучальнага года на Філалагічным факультэце ВУ паклікаецца да жыцця Кафедра беларускай філалогіі, арганізацыя якой даверана праф. др Антаніне Абрэмбскай - Яблонскай». І далей, што «звярнуліся ў Міністэрства асветы БССР у справе накіравання ў Польшчу двух самастойных навуковых працаўнікоў: моваведа і гісторыка літаратуры». Праводзіцца энергічная рэкрутацыя кандыдатаў на І курс. Да ўступных экзаменаў у верасні прыступіла 66 кандыдатаў, з якіх прынята 20 асоб, у тым ліку 16 — з беларускіх сярэдніх школ.

У палове кастрычніка 56 г. прыехалі з Мінска ў Варшаву навуковы супрацоўнік Акадэміі навук БССР праф. Мікола Бірыла — спецыяліст у галіне мовы і выкладчык Васіль Тарасаў — гісторык літаратуры.

Кончыўся цяжкі арганізацыйны этап, пачалася нармальная, штодзённая праца. З таго часу мінула дзесяць гадоў. Аб дасягненнях Кафедры інфармуе нас яе загадчык — праф. др А. Абрэмбская-Яблонская.

### «ПРАДУКЦЫЯ» КАДРАЎ

Рэкрутацыя на Кафедру ў першыя гады працы праводзілася штогод, пазней — кожны другі год. У гэтым навучальным годзе адбылася сёмая рэкрутацыя. Кафедра дагэтуль «выпрадукавала» 34 магістраў-філолагаў, з якіх 24 асобы напісала працы па гісторыі беларускай літаратуры, а 10 — па беларускай мове. Дзве мовазнаўчыя працы напісаны на аснове даследвання беларускіх дыялектаў усходняй часткі Беласточчыны. Наогул беручы закончыла Кафедру і абараніла магістэрскія працы 50% студэнтаў прынятых на 1 курс.

### НАВУКОВАЯ І ДЫДАКТЫЧНАЯ ПРАЦА КАФЕДРЫ

Навуковай і дыдактычнай працай Кафедры кіруе яе загадчык праф. др А. Абрэмбская-Яблонская, якая праяўляе найбольшую актыўнасць у галіне даследвання польска-беларускіх гістарычных, моўных і літаратурных суадносін. Апрача працы на Кафедры праф. др Яблонская кіруе беларускім аддзелам славяназнаўства ПАН. Пад яе кіраўніцтвам працуе трох абсальвентаў Кафедры, якія даследуюць беларускія дыялекты Беласточчыны, працуюць над тэкстамі этнографа М. Федароўскага. Пад рэдакцыяй праф. Яблонскай выйшлі з друку V і VI тамы «Люду беларускага» М. Федароўскага. Супольна з беларускім вучоным дацэнтам М. Бірылам, праф. Яблонская апрацавала «Польска-беларускі слоўнік», а цяпер пры супрацоўніцтве з АН БССР рыхтуе да друку «Беларуска-польскі слоўнік». Праф. Яблонская з'яўляецца членам рэдкалегіі навуковага часопіса «Slavia orienttalis». Праф. Яблонская і іншыя навуковыя працаўнікі Кафедры змяшчаюць свае працы ў такіх навуковых выдавецтвах як: «Baltico slavico», «Rocznik Białostocki» і «Навуковыя зборнікі» БГКТ. Кафедра адзначыла навуковымі працамі сотую гадавіну з дня нараджэння акадэміка Я. Карскага і 45 гадавіну ўтварэння БССР. Навуковыя працаўнікі Кафедры — др Э. Смулкова і др А. Баршчэўскі абаранілі свае доктарскія працы. Доктарская мовазнаўчая праца Э. Смулковай атрымала ўзнагароду Міністра В. А. Асістэнты Кафедры — мгр З. Скібінская, мгр А. Багроўская і мгр М. Врублеўскі пішуць доктарскія працы. Прадстаўнікі Кафедры працуюць дыдактычна ў Міністэрстве асветы, апрацоўваюць праграмы навучання ў беларускіх школах, засядаюць у камісіях па ацэнцы падручнікаў, пішуць рэцэнзіі на падручнікі, а таксама з'яўляюцца аўтарамі падручнікаў.

Кафедра цесна супрацоўнічае з Акадэміяй навук і вышэйшымі навучальнымі ўстановамі Савецкай Беларусі. Першыя два гады чыталі лекцыі на Кафедры прафесары М. Бірыла і В. Тарасаў, наступныя два — прафесары М. Лазарук і А. Жураўскі..

Па запрашэнню Кафедры чыталі лекцыі для студэнтаў прафесары з Мінска: О. Казлова, М. Ларчанка, Л. Абэцэдарскі. Амаль усе студэнты Кафедры выязджалі падчас летніх канікул на практыку ў БССР. Э. Смулкова, А. Багроўская і А. Баршчэўскі былі ў Мінску на навуковых стыпендыях, выкарыстоўвалі матэрыялы беларускіх архіваў. У сваю чаргу Кафедра памагала навуковым працаўнікам з Мінска А. Мальдзісу і Я. Саламевічу.

Немагчыма ў адным артыкуле прадставіць усе здабыткі Кафедры за мінулае дзесяцігоддзе.

Выпадае нам на заканчэнне пажадаць юбілятам далейшых поспехаў як у кадравай прадукцыі, так і ў навукова-дыдактычнай працы.

**Віктар Швед**

# Пра алені і іншыя звяры

У 1964 годзе налічвалася ў Беластоцкім ваяводстве дакладна 1652 алені. Найбольш знаходзіцца іх у Белавежскай пушчы з увагі на лісцяны тып яе дрэў. Алень страшэнна многа паядае маладых галінак і пасынак дрэў, гамуючы такім чынам іх рост. Алень не пагарджае таксама і ядлінавымі дрэвамі, але асаблівыя спусташэнні чыніць у лісцяным лесе. Таму на зіму 1964 года запланавана паляванне на аленняў. Прадбачана адстрэл 318 штук. Аднак удалося запаляваць усяго толькі на 155 штук. У гэтым годзе плануецца адстрэл 400 аленяў — колькі ўдасца іх застрэліць, яшчэ невядома.

У беластоцкіх лясах, асабліва, у Супраскай пушчы знаходзяцца рысі. Разам на Беласточчыне налічана іх каля сарака штук, у тым ліку каля трыццаці штук менавіта ў Супраскіх лясах. Плануецца адстрэл 15 рысяў. Ці ўдасца, невядома. Рысь, драпежны і хітры звер. Таму не толькі цяжка падлічыць, колькі іх ёсць, але яшчэ цяжэй запаляваць на іх. У мінулую зіму застрэлена ўсяго тры рысі. Драпежнасць рысі чыніць вялікія шкоды: яна за год паядае каля шасці сарнаў, трыццаці зайцаў і іншага дробнага звяр'я.

Ваўкоў на Беласточчыне вельмі мала, усяго некалькі штук у Белавежскай і Аўгустоўскай пушчах, ды адзін-два ў Галдапскіх лясах. У Супраскай пушчы няма зусім ваўкоў, а калі і паяўляюцца яны ў гэтых аколіцах дык толькі праходам, найчасцей з лясоў на тэрыторыі Беларускай рэспублікі.

У гэтым годзе дазволена толькі адзін дзень паляваць на курапаткі. Некаторыя паляўнічыя ўвогуле адмовіліся ад права палявання на курапаткі з увагі на іх вялікую карыснасць у барацьбе са «стонкаю».

(ся)

# Цікава настаўнікам

Толькі лічаныя асобы сярод беларускіх настаўнікаў Беласточчыны маюць «Арфаграфічны слоўнік» роднай мовы. Тым часам гэта вельмі патрэбны навучальны дапаможнік не толькі настаўнікам, але і вучням старэйшых класаў.

У сувязі з тым можам пацешыць настаўнікаў, што ў недалёкай будучыні выйдзе з друку ў Мінску другое выданне гэтага «Слоўніка». Тыраж выдання вялікі — 50 тысяч экземпляраў. Маем надзею, што «Дом кніжкі» паклапоціцца пра тое, каб адпаведная колькасць гэтага «Слоўніка» знайшлася і ў нашым гандлі. Гэту надзею кіруем у адрас Куратарыі, а канкрэтна — у адрас візітатара Канапелькі, адказнага за беларускае школьніцтва на Беласточчыне.

(ся)

ДАЛЕЙШЫЯ ПЕРАШКОДЫ

# Зваявалі хваробы...

**Нашай быдлячыне не пагражаюць масавыя хваробы, званыя эпідэміямі, якія бывалі ў мінулыя гады.**

**Гэта зусім не сведчыць аб тым, што жывёла ў нашых гаспадарках здаровая. Прычынаю яе слабізны з'яўляецца нядбайнасць саміх гаспадароў, якія ўсё яшчэ больш дбаюць пра каня, чым пра карову, свінню ці авечку. Вядома, конь з'яўляецца часта падпораю цэлай гаспадаркі, але страты вынікаючыя з недагляду кароў ці іншай жывёлы вельмі высокія. Можна зменшыць гэтыя страты простым спосабам: ляпей дбаючы аб гігіену ў хлявах. Жывёла церпіць на розныя хваробы жывата, найчасцей таму, што кормім яе ў запаскуджаных жолабах, кідаем на зямлю зелле свінням і т.д. Набываюць пашырэння хваробы звязаныя з кепскай переменай матэрыі, а першымі знакамі такой хваробы з'яўляюцца аслабленне, сонлівасць. Нярэдка марнуем свае кароўкі недакладна выдойваючы іх.**

**Падлічана, што за тры кварталы гэтага года на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства на тысячу штук кароў прападала дванаццаць кароў, пераважна, па віне гаспадароў — рэдка ад якой-небудзь заразнай хваробы. У Сакольскім павеце прападала па сямнаццаць кароў з тысячы, у Дуброўскім — па 15 кароў з тысячы і т.п. Аказалася, што адзін толькі Гайнаўскі павет ляпей дбае пра каровы, бо прападае там усяго дзевяць кароў з тысячы. Калі ўзяць для параўнання лікі прапажы коней, то акажацца, што Сакольскі павет дараўноўвае Гайнаўскаму павету ў дбайнасці аб каня.**

**Ветэрынарная служба змагаецца, як толькі можа аб жыццяздольнасць нашых статкаў. У гэтым годзе, у параўнанні нават да мінулага года, зменшылася прапажа кароў амаль у два разы. У 1965 годзе прападала ў сярэднім каля 21 каровы з тысячы штук.**

**Нядаўна меў я размову з беластоцкімі ветэрынарамі і даведаўся іх думку, што ў, так званых, беларускіх паветах надта цяжка будзе змагацца за далейшае змяншэнне прапажы кароў. Цяжкасці бачаць яны не толькі ў тым, што ў нашых вёсках рэдка хто мае добры хлеў і чыста ўтрыманы, бо гаспадары наогул ужо пераканаліся, што найпершаю прычынаю хвароб з'яўляецца бруд. Справа перш за ўсё ў тым, што нашы палі падзелены цераспалосіцаю і быдла, авечкі, свінні пасвяцца на супольных, грамадскіх пашах. Хвароба адной штукі перадаецца другім штукам, ад суседа да суседа. Гаспадары не маюць сваіх паш, дзе кожную хваробу можна абмежаваць да адной гаспадарскай чарады, недапусціць да пашырэння яе.**

**У такім становішчы нашай сельскай гаспадаркі намаганні ветэрынарнай службы не даюць спадзяваных вынікаў. А трэба сказаць, што ветэрынарная служба даволі развітая. Напрыклад, у такім малюткім Дуброўскім павеце існуе шэсць ветэрынарных пляцовак, у якіх працуе шэсць лекараў-ветэрынараў, не лічачы спецыялістаў ветэрынарыі ніжэйшай рангі. У Сакольскім павеце існуе восем ветэрынарных пляцовак, у якіх працуе толькі адных лекараў-ветэрынараў дзевяць асоб. У іншых паветах сетка ветэрынарных пляцовак яшчэ больш густая. Якасць працы гэтых пляцовак ацэньваецца высока. Беластоцкае ваяводства займае чацвёртае месца ў Польшчы па якасці працы ветэрынарных пляцовак і кваліфікацыі яе спецыялістаў. Варта дадаць прытым, што ўмовы працы гэтых пляцовак вельмі цяжкія. Размешчаны яны, пераважна, у наёмных памяшканнях, у хатах гаспадароў. Мала будуецца праўдзівых ветэрынарных лячэбніц. У гэтым месцы можна пацешыць гаспадароў арлянскай аколіцы, што ўжо ў наступным годзе пачнецца будова ў Орлі прыгожай ветэрынарнай лячэбніцы. Будзе такая лячэбніца ў Мілейчыцах, Сямяціцкага павета. Будуецца ветэрынарная лячэбніца ў Новым Двары, Дуброўскага павета; пабудавана ў Крынках, Сакольскага павета. І гэта, бадай, усё, што можна сказаць аб будове новых памяшканняў для гэтых надта патрэбных гаспадару пляцовак.**

**Рэшта іх гнездзіцца па хатах. Крыўдна слухаць гэта, зважыўшы той факт, што гаспадар найбольш плаціць за ветэрынарныя паслугі. За астатні год беластоцкія гаспадары заплацілі ветэрынарам за іх паслугі звыш трыццаці мільёнаў злотых. Тым часам ветэрынарныя паслугі ў розных бойнях і іншых фірмах каштуюць літаральна залатоўкі! Напрыклад, калі гаспадар плаціць за паслугу 15 злотых, то за тую ж самую паслугу бойня ці іншая фірма плаціць 3 злотых. У чатыры-пяць разоў менш! Такі закон. Ён несправядлівы, і ведаюць гэта не толькі ў Беластоку, але і ў Варшаве... Патрэбна адмена такіх парадкаў, калі мы хочам, каб ветэрынарная служба выконвала свае заданні ў дбайнасці аб пагалоўе жывёлы. Даступнасць цаны — вось першая ўмова папулярызацыі ветэрынарнай апекі. Іначай, гаспадар будзе зварочвацца аб дапамогу ветэрынара, найчасцей, ужо тады, калі не паможа ніякая дапамога...**

**(СЯ)**



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# Кім быў сапраўды граф Монтэ-Крыста?

Вядомая ўсяму свету аповесць «Граф Монтэ-Крыста» напісана была на падставе праўдзівых фактаў, расказаных у мемуарах супрацоўніка парыжскай паліцыі нейкага Жака Пешэ.

У 1807 годзе просты шавецкі чаляднік Франсуа Піка меў намер ажаніцца з прыгожай дзяўчынай, Маргарытай Фіжэру. Была яна не толькі прыгожая, але і багатая. Будучае вяселле не давала спакою канкурэнту Піка, удаўцу — карчмару Мат'е Лупія, які таксама стараўся як мог заляцацца да гэтай дзяўчыны, але яна яго не любіла. Карчмар Лупія пастанавіў недапусціць да вяселля. Ён напісаў начальніку паліцыі данос на Франсуа Піка. Абвінаваціў яго ў тым, што ён нібы прымае ўдзел у змове супроць Напалеона. На тры дні перад вяселлем Франсуа Піка быў арыштаваны.

Мінула многа год.

15 лютага 1815 года ў Парыж прыехаў элегантны Джозэф Люшэр. Пад такім імем скрываўся ніхто іншы, як сам Франсуа Піка, якога выпусцілі з турмы Фенестрэль у П'емонце (цяпер паўночна-заходняя Італія).

У Фестрэле Піка пасябраваў з нейкім святаром з вялікага горада Мілан. Называўся ён абат Фарына (у аповесці ён Фарыя), якога пасадзілі ў турму па палітычных прычынах. Калі Фарына паміраў, завяшчаў Піка велізарную спадчыну: восем мільёнаў тадышніх франкаў у нерухомай маёмасці, два мільёны франкаў каштоўнасцямі і тры мільёны франкаў золатам. Гэтыя скарбы былі прыхаваны не на востраве Монтэ-Крыста, а ў іншым месцы, якое абат указаў для Піка.

Сябра Лупія, нейкі Алю, трымаў мізэрны правінцыянальны атэлік. Піка з'явіўся ў яго ў сутане пад выглядам былога святара турмы ў Фенестрэле (у аповесці ён абат Бузоні).

— Па волі выказанай Піка, — сказаў святар, — гэты брыльянт будзе ваш, калі вы скажаце мне імёны подлых людзей вядомых вам.

Алю сказаў:

— Данёс Лупія. Дапамагалі яму ў гэтым бакалейшчык Шабра і шапачнік Салары.

Люшэр-Піка, здабыўшы патрэбныя інфармацыі, вярнуўся ў Парыж і наняўся за афіцыянта ў рэстаране Лупія. Там ён убачыў не толькі сваю былую нарачоную Маргарыту, але і Шабра і Салары, супольнікаў Лупія.

Ад таго часу на сям'ю Лупія пачалі падаць няшчасці. Яго дачка ад першай жонкі, шаснаццацігадовая прыгажуня, была зняслаўлена нейкім прынцам дэ Карлана. Каб пазбегчы скандалу і ганьбы, Лупія вырашыў хутка наладзіць вяселле. Але каханак дэ Карлана знік. Толькі потым стала ясным, што нібы прынц дэ Карлана, гэта ніхто іншы, як сам Франсуа Піка.

Тым часам выбух пажар, які знішчыў раскошную гасцініцу, рэстаран і кватэру Лупія. Да ўсяго таго няшчасця дабаўляецца яшчэ адно: сын Лупія, разбэшчаны калегамі-гулякамі, засуджаны на дваццаць год цяжкай катаргі.

Лупія робіцца амаль вар'ятам. Яго жонка, Маргарыта, памірае ад гора на пачатку 1820 года. Пасля яе смерці паявіўся ноччу перад Лупія чалавек, ахутаны ў чорны плашч:

— Я Франсуа Піка, якога ты кінуў у турму і ўкраў нарачоную. Я забіў Шабра, атруціў Салары, зганьбіў тваю дачку, сына давёў да катаргі...

Піка забіў кінджалам Лупія, галоўнага вінаватага.

Але ў той жа момант, калі Піка намерыўся ўцякаць, схапіў яго карчмар Алю, які даўно ўжо распазнаў Люшэра, як мсціўца Франсуа Піка. За сваё маўчанне Алю запатрабаваў ад Піка палову яго багацця. Ён аднак не згадзіўся. Пасля Алю забіў Франсуа Піка і сам уцёк у Англію.

У 1828 годзе, калі Алю адчуў прыбліжэнне смерці, ён паклікаў да сябе французскага святара, якому выспаведаўся з усяго. Ён прасіў перадаць гэты расказ парыжскай паліцыі. Такім чынам праўдзівая гісторыя закончылася не так прыгожа, як у аповесці «Граф Монтэ-Крыста» Аляксандра Дзюма.

(а-ся)




**ДАКУМЕНТ**

З кароткага метражу цікавыя навіны: «На 12 гектарах» — рэпартаж з прыкладнага гаспадарства ў Велькапольшчы — раёне вядомым з высокай сельскагаспадарчай культуры. Партрэт гаспадара, які з жонкай і сынам працуе, асягнуў заможнасць і амаль гарадскія ўмовы жыцця. Камера паказвае штадзённыя заняткі людзей, іх працу і задавальненне з вынікаў.

Другі цікавы дакумент п.з. «Сіцылійскія працэсіі» пераносіць нас у Італію, на вядомы востраў Сіцілію на Міжземным моры. На Сіцыліі штогод святкуюцца сотні розных рэлігійных свят у чэсць незлічоных святых. Фільм дае нам атмасферу гэтых свят, у якой змешчаны элементы хрысціянскія і паганскія, страх і фанатычная вера.

(вл)

## Народжаны на стадыёне

У Палацы спорта Цэнтральнага стадыёна імя В. І. Леніна ў Маскве ішоў эстрадны канцэрт. Артысты змяняліся адзін за другім. І тады заслабла Ольга Ч. — студэнтка «Цімеразеўкі». Яе адразу перанеслі ў медыцынскі пункт, які знаходзіцца ля палаца. Тут дыжурны фельчар шчасліва прыняў роды. Дырэкцыя палаца натыхмястова гарантавала новаму грамадзяніну бясплатны білет на ўсе спектаклі, якія толькі будуць наладжвацца ў палацы і на стадыёне.

(а-вр)



ТАЯМНІЧЫ ФАНТАН

*Скамплікаваная апаратура, якую бачым на здымку, гэта сфатаграфаваны пад сонца фантан-помнік, збудаваны ў Сідней (Аўстралія). Фантан нагадвае кветку чортапалоху. Вада вытрысквае з 211 рурак, якія ўтвараюць шар дыяметрам у 4 метры.* (мф)

## Беларуская тэхніка



ДЗІЎНАЯ МАШЫНА

*Называецца яна «Снегапагрузчык — Д-566» і ў асноўным служыць да ачысткі дарог і вуліц са снегу. Але не толькі. Можна яе паспяхова выкарыстоўваць для пагрузкі, скажам, на аўтамашыны, усіх сыпучых матэрыялаў: зерня, гравію, пяску і т.п. За адну гадзіну часу машына перакідвае аж 250 кубічных метраў сыпучага матэрыялу, падаючы яго на вышыню больш 4 метраў.*

*Гэты своеасаблівы «бульдозер» выпускае Мінскі завод «Украіна». Машыны «Д-566» працуюць цяпер у розных кутках вялікай краіны Саветаў.* (вр)

*На здымку: «Снегапагрузчык Д-566».*

## Дзе знайсці загубленую душу

(Працяг са стар. 5)

пагражаюць і іншыя небяспекі, можа іх нехта прываліць цяжкім каменем, можа цень замураваць, ці проста можа яго ўкрасці чараўнік або нейкі злы дух. Таму першабытны чалавек пільна сочыць за сваім ценем. Калі адзін падарожнік хацеў сфатаграфаваць эскімосаў, якія круціліся каля сваіх хатаў, падышоў да яго правадыр вёскі і запатрабаваў, каб дазволіў яму заглянуць пад чорную хустку. Пасля дазволу глядзеў праз хвіліну ўважліва на варушыўшыеся ў апараце карціны людзей, потым адскочыў і ўскрыкнуў на ўсё горла «Ён мае ўсе вашыя цені ў сваёй скрынцы». Людзі ў найбольшым перапалоху разбегліся, хто дзе мог.

У Кітаі, калі пакойніка апускаюць у магілу, прысутныя адыходзяць на нейкую адлегласць, каб іх цені не ўпалі ў магілу і не былі прысыпаны.

Цяпер станецца нам ясная справа люстраў у доме нябожчыкаў. Паводле народных вераванняў душа нябожчыка праз нейкі час прабывае ў сваім доме. Можа яна пакрасці адлюстраваныя ў люстры душы людзей, якія знаходзяцца ў хаце. І таму лепш засланіць люстра, або адвярнуць яго шклом да сцяны. Звычай гэты перахаваўся ў нас з даўніх часоў і сёння ніхто нават не дадумоўваецца, што гэта старая магічная працэдура, мэтай якой зберагчы ў цэласці нашыя няшчасныя душы.

Калі зразумеем, што адбіццё ў люстры гэта, паводле першабытных вераванняў, чалавечая душа, ясным станецца роля люстра ў розных магічных працэдурах. Калі ў люстры так лёгка ўбачыць можна сваю душу, то пры адпаведных магічных закляццях можна ў ім убачыць душы іншых людзей, душы памершых, ці духа наогул (скажам чорта).

На падставе прац. Дж Фрэйзара

апрацаваў — п.




Палкоўнік Гартман, начальнік аднаго з аддзелаў разведвальнай службы бундэсвера ФРГ, сур'ёзна заклапочаны: у адзін дзень дзве непрыемнасці. Па-першае, ён атрымаў данясенне ад аднаго са сваіх агентаў «Г-20», законспіраваўшагася на тэрыторыі Польскай Народнай Рэспублікі, у якім ён просіць аказаць яму дапамогу. Па-другое, палкоўніку Гартману стала вядома, што другі яго супрацоўнік, нейкі Стэйнеке, афіцэр Бундэсвера, працуе адначасова і на англійскую разведку. Сам па сабе гэты факт дастаткова тыповы для сучасных заходніх разведак, не выклікаў асаблівага абурэння Гартмана. Справа, аднак, ускладнілася тым, што Стэйнеке ў час свайго нядаўняга знаходжання ў Францыі быў злоўлены з доказамі злачынства пры спробе сфатаграфаваць узбраенне французскіх спецыяльных падраздзяленняў, якія не ўваходзяць у састаў НАТО. Паколькі ў сваёй знешняй палітыцы ФРГ спрабуе заігрываць з Францыяй, пераканаць еўрапейскую грамадскасць, што ўрад ФРГ не мае нічога агульнага з традыцыйнымі для мілітарысцкіх колаў Заходняй Германіі агрэсіўнымі намерамі адносна Францыі, факт гэты пагражае буйнымі міжнароднымі ўскладненнямі. Стэйнеке павінен быць пакараны, і Гартман знаходзіць для яго падыходзячую меру пакарання: іменна Стэйнеке, па загаду Гартмана, накіроўваецца ў Польшчу для аказання дапамогі таямнічаму «Г-20».

Паводле прадугледжанага начальствам плана, Стэйнеке тайна высадзіцца на марскім узбярэжжы Польшчы, куды павінен даставіць яго рыбацкі катэр, — на самай справе, вядома, адна са шматлікіх суднаў разведвальнай службы ФРГ. Камандуе суднам обер-лейтэнант Вартэнберг, фанатычна адданы ідэям фашысцкага рэваншу.

**Магутная хваля падкінула катэр, і Стэйнеке моцна стукнуўся галавой аб сценку каюты. Удар вывеў яго з глыбокага сну. Хуткім рухам ён скінуў коўдру і сеў на пасцель. Ён адчуў тупы боль у страўніку і моташнасць. Стэйнеке паглядзеў на цыферблат гадзінніка, які свяціўся ў цемры. «Другая гадзіна, трэба ўставаць», — падумаў ён. Туманны водбліск начніка, падвешанага пад столлю, узмацняў ўражанне, быццам судна правальваецца. Паступова Стэйнеке пачаў распазнаваць прадметы, што складалі абстаноўку каюты. Раптам ён здрыгануўся. Непадалёку ад уваходу на крэсле сядзеў нейкі чалавек, павярнуўшы твар у яго бок.**

**— Хто там? — закрычаў Стэйнеке, зрываючыся з месца і схапіўшыся за пісталет. Ён жа катэгарычна забараніў уваходзіць у яго каюту каму б там ні было, за выключэннем Вартэнберга. У чамадане знаходзіліся грошы, дакументы, а таксама каштоўнае тэхнічнае аснашчэнне.**

**Незнаёмец не крануўся з месца.**

**— Схавай, калега, пугач, — сказаў ён, закурваючы папяросу.**

**Стэйнеке не ведаў, што яму рабіць.**

**— Сабачае надвор'е, — зазначыў незнаёмец.**

**— Што вы тут робіце? — з цяжкасцю прамовіў Стэйнеке, разззлаваны незвычайнымі паводзінамі госця.**

**— Тое ж самае, што і вы, — адказаў незнаёмец. — Я павінен прабрацца на той бок.**

**— Як так? Вы таксама ў Панятоў — міжвольна вырвалася ў Стэйнеке.**

**— Тс, тс, — незнаёмец скінуў попел з папяросы. — Я не павінен аб гэтым ведаць, — прамовіў ён сярдзіта.**

**Усталявалася цішыня. Стэйнеке злаваўся на сябе. Зрабіў, як непрактыкаванае жаўтаротае птушаня. І ўсё гэта з-за праклятага болю.**

**Незнаёмец звярнуўся да Стэйнеке.**

**— Я маёр Гардэн, — сказаў ён, працягваючы Стэйнеке пасведчанне.**

**Стэйнеке разгарнуў яго і... абамлеў. Гербавая пячатка, адціснутая на фатаграфіі, указвала на прыналежнасць маёра да контрразведкі бундэсвера.**

**Раптам у яго нарадзілася падазрэнне. А можа ўся гэта камандзіроўка толькі буф з мэтай ліквідаваць няўгоднага агента? Выезд у мора, нечаканы візіт. Можа, гэты Гардэн падасланы, каб пры першай аказіі...**

**Нічога не гаворачы, Стэйнеке вярнуў пасведчанне. Ён вырашыў цяпер быць пільным.**

**— Я хачу аднаго — паспяхова перайсці граніцу, — растлумачыў Гардэн, — а аб астатнім вы не павінны турбавацца.**

**Яны доўга яшчэ гаварылі аб дэталях, звязаных з пераходам на другі бок. Маёр частаваў каньяком. Стэйнеке адчуваў сябе ўжо лепш. Спазмы ў страўніку амаль сціхлі.**

**Неўзабаве ў каюту ўвайшоў прамоклы Вартэнберг:**

**— Праз гадзіну будзем на месцы.**

**Мужчыны неадкладна заняліся экіпі-**



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# ТРЫБУНА чытачоў

## Перадавая пошта

Пошта ў грамадскім жыцці мае вялікае значэнне. Без яе, як гэта гаворыцца, «ані руш». З лістаў, якія атрымліваем ад сваіх блізкіх, знаёмых — мы даведваемся аб іх жыцці і наадварот — калі яны жадаюць ведаць аб нас — даведваюцца таксама з лістаў, якія яны атрымліваюць з пошты. Адным словам: наша жыццё цесна звязана з жыццём паштовай установы. Поштай вандуе ўсё. пісьмы, грошы, газеты, кнігі... Пошта — акно ў свет. У Дубічах Царкоўных пошта існуе 15 год. Змяшчаецца яна ў хаце грам. Івана Хілімонюка. Год таму пачаў тут працаваць кіраўніком установы малады хлапец з Істоку — Васіль Андрасюк. Першыя месяцы працы паказалі яго працаздольнасць: запанавала чысціня, парадак ва ўстанове. Павялічылася колькасць газет і часопісаў. Таксама больш людзей пачало закладваць ашчадныя кніжкі ПКО. Начальнік — чалавек вельмі ветлівы, і ў хуткім часе заваяваў сабе папулярнасць і пашану людзей. Да 1966 года пошта ў Дубічах знаходзілася на трэцім месцы ў Гайнаўскім павеце; на 1-шага мая г.г. заваявала другое месца. А цяпер, 18 кастрычніка — свята паштоўцаў — пошта ў Дубічах Царкоўных заваявала першае месца аб званне найлепшай паштовай установы ў абводзе. Усе працаўнікі нашай пошты атрымалі ў гэты ўрачысты дзень грашовыя ўзнагароды па 300 зл. Пошта апрача дыплома атрымала і сцяг, якога ўручыў В. Андрасюку дырэктар Гайнаўскага ОУПТ — Мікалай Суліма.

Наконт газет і часопісаў, то першае месца тут займае «Ніва» — 130 экз., потым «Хлопска Дрога» — 54 экз., «Газета Беластоцка» — 53 экз., «Наша весь» — 14 экз. і інш.

Трэба тут успомніць і пра пісьманосца Івана Кірылюка, які працуе на пошце 13 год. Ён з'яўляецца ахвярным прапагандыстам і агітатарам газет і часопісаў.

**М. Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя

## Сяляне настаўнікам

Да вельмі карыснага грамадскага чыну прыступілі жыхары вёскі Крыніцкія. Пастанавілі яны пабудаваць дом для настаўнікаў. Ужо пачаліся выкапы пад фундамент гэтага дома, у якім атрымаюць памяшканне чатырох настаўнікаў. Вёска мела грамадскую зямлю. Апошнім часам прадала яе з той мэтай, каб выкарыстаць грошы на пакупку будаўляных матэрыялаў. Пачын сялян з Крыніцкіх вельмі патрэбны. Будзе гэта вялікі і каштоўны падарак бацькоў для выхаваццеляў іх дзяцей. (мх)

**роўкай. Стэйнеке дастаў са скрыні камбінезон на «маланках», зроблены з грубай шэрсці. Затым дастаў гумавыя часткі адзення акваланґіста. Маёр Гардэн рабіў тое ж.**
**Праз некалькі мінут яны лайшлі да Вартэнберга.**
**— Мы гатовы, — гучным голасам, перакрыкваючы грукат матора і шум мора, далажыў Гардэн. — Дакументы адашлеце, куды трэба.**
**Вартэнберг кіўнуў галавой. Моўчкі ўсе трое глядзелі праз акно рубкі на мора, якое разбушавалася.**
**Гардэн падышоў да Вартэнберга і крыкнуў яму ў вуха:**
**— Яшчэ далёка?**
**Вартэнберг паказаў алоўкам пункт на карце. Было ўжо блізка. Праз некалькі мінут шкіпер зноў зірнуў на карту і загадаў паменшыць абароты машын.**
**Плыўцы развіталіся з Вартэнбергам, надзелі шлемы, праверылі спраўнасць кіслародных апаратаў і выйшлі на палубу.**
**— Бераг вунь там! — паказаў ім рукой на развітанне Вартэнберг.**
**Праз мінуту агентаў ужо не было на палубе. Вартэнберг з вялікай палёгкай выцер далонню мокры твар, зайшоў у рубку і загадаў ахрыплым голасам:**
**— Поўны наперад!**
**Заракаталі маторы. Катэр узяў курс на Гамбург.**

**(Працяг будзе)**

## Дальбог, гэтага я не пісаў

Мне вельмі прыемна, што мой сціплы артыкул у «Літаратуры і мастацтве» пра Юльяна Гарайна, беларускага сябра Сянкевіча, быў заўважаны «Нівай», што гэтаму артыкулу Ваша газета прысвяціла нататку ў нумары за 17 кастрычніка бягучага года. Аднак у маленькай нататцы дапушчана столькі недакладнасцей, што я вымушаны звярнуцца ў «Ніву» з просьбай апублікаваць гэтае пісьмо. Я ўжо не буду гаварыць пра тое, што Гарайн у нататцы стаў Герайнам, пра вельмі прэтэнцыёзны загаловак нататкі. Урэшце рэшт гэта дробязі. Важна іншае: у нататцы мне прыпісаны думкі, якіх я не выказваў і якія не адпавядаюць праўдзе. Са здзіўленнем я прачытаў такое: «Герайн шмат тварыў на беларускай мове, як і большасць тагачаснай польскай дэмакратычнай творчай інтэлігенцыі «на крэсах». Дальбог, гэтага я не пісаў. І не мог пісаць, бо пра беларускія творы Гарайна ніхто ніколі не чуў. Іншая справа, што пісаў ён пра беларусаў, пра беларускіх пісьменнікаў на польскай мове, у польскіх творах. Мне таксама хацелася б залічыць Гарайна ў беларускія пісьменнікі. але ж нельга выдаваць жадаемае за сапраўднае... Няпраўда і тое, што большасць тагачаснай польскай інтэлігенцыі «на крэсах» «тварыла» на беларускай мове. Тварылі на ёй лічаныя адзінкі. Калі б было не так. то беларуская літаратура мінулага стагоддзя была б куды багацейшай, чым мы яе ведаем сёння.

З глыбокай павагай —

**А. Мальдзіс**

Мінск, 25 кастрычніка 1966 г.

## Каб свінні мелі волю

*Праклінаюць сяляне пункт скупу Гайнаўскага ГС-у. Няма там даўжэйшы час памосту да вагі. Свінні падаюць, ламаюць ногі, калечацца. Заўсёды там многа віску. Здаецца, каб даць свінням волю, дык яны напэўна адпомсцілі б кіраўніцтву ГС-у за такі здзек над імі. (МС)*




Дарагое Сэрцайка!

Цікава, як ты мне параіш у маёй бядзе. Я жыву на вёсцы з мамай. Мая мама ўжо старэнькая, мае больш 60-ці гадоў, а я таксама хворая. Дастаю пенсію 650 зл. Хаця я маладая, маю 28 гадоў, аднак да працы няздольная. Таму прашу цябе, Сэрцайка, парай, ці я магу дастаць большую пенсію, бо з гэтых грошай, якія я атрымоўваю, цяжка пражыць. Я звярталася ў ЗУС у Беласток аб павышэнне пенсіі, аднак атрымала адказ, каб ісці ў дом пенсіянераў. Але я там не хачу ісці, пакуль жыве мая мама. Чакаю парады, за якую буду табе вельмі ўдзячна.

**Марыся з Гайнаўшчыны**

Дарагая Марыся!

Мы ў гэтай справе звярнуліся да радцы праўнага, які нам даў наступны адказ:

Заклад Убэзпечэнь Спалэчных прызначае пенсію згодна з абавязваючымі нормамі. Змена магла б наступіць толькі ў выпадку, калі аблічэнне гэтае было памылковым. Толькі на аснове таго, што пенсіянер знаходзіцца ў цяжкім становішчы, ЗУС не можа падвысіць пенсіі.

**Сэрцайка**



**Пачатковая школа ў Малешах у Беластоцкім павеце. Перақазана яна ў карыстанне першага верасня. фота Аляксей Казёл**

## Актыўны гурток

Гаркавіцкі сельскагаспадарчы гурток яшчэ малады. Існуе толькі два гады. Але за гэты кароткі час выказаўся ён вялікай актыўнасцю. Удалося яму закупіць многа сельскагаспадарчых машын, у тым ліку трактар з прычэпай, снопавязалку, капачку бульбы, малацільны агрэгат і т.д. ГуртKоўскія машыны прыносяць вялікую паслугу гаспадарам незгуртаваным у гэтай арганізацыі. Машыны жнуць, выконваюць ворыва і малоцяць у суседніх, а нават адлеглых вёсках, у грамадскай радзе Бабікі і Крынкі.

У гуртку добра сарганізаваная праца, добра выконваюцца паслугі. І таму расце яго аўтарытэт. І вось ва ўсім гэтым вялікія заслугі старшыні сельскагаспадарчага гуртка Івана Кастэцкага.

**А. С.**
Сакольскі павет

## Цікавае спатканне

Нядаўна ў школе ў Старым Ляўкове адбылося спатканне прадстаўніка Гайнаўскага аддзела БГКТ Васіля Дзуна са школьнай моладдзю. Госць расказаў прысутным аб змаганнях сялян і рабочых з царскай уладай, аб дзейнасці рабоча-сялянскай «Грамады» пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, а таксама аб станаўленні народнай улады ў Польшчы.

На заканчэнне свайго выступлення В. Дзун прачытаў некалькі сваіх вершаў, якія ўсім спадабаліся. Пасля адказваў на пытанні вучняў і настаўнікаў. У гэты дзень мясцовыя настаўнікі, якія ў верасні пачалі працу ў стараляўкоўскай школе, былі прыняты ў члены БГКТ.

**Янка Цялушэцкі**
Старое Ляўкова

## «Беластоцкая зямля прыпамінае»

Дакументальны альбом «Беластоцкая зямля прыпамінае» вядомага пісьменніка Аляксандра Амільяновіча вельмі цікавая кніга. Яна расказвае аб страшных днях акупацыі і аб змаганні партызан і насельніцтва з нямецкім акупантам.

Кніга вельмі каштоўная і пачытная. Павінна яна знайсціся ва ўсіх грамадскіх бібліятэках, у бібліятэках школ, установ і прадпрыемстваў. Такою рэдка спатыканаю кніжкаю варта папоўніць свае ўласныя бібліятэкі, бо ў ёй мы бачым гісторыю нашай Беласточчыны.

Купіць кнігу заўсёды можна ў акруговым праўленні ЗБОВіД-у ў Беластоку, вул. Весялоўскага 1. Цана яе 100 зл (мх)

## ЦЭНЫ

Ваяводская камісія цэн пастаянна сочыць за цэнамі на кірмашах, дзе не абавязваюць дзяржаўныя цэннікі. Яе працаўнікі ў мінулым тыдні (у чацвер у Беластоку і Бельску, а ў сераду — у Гайнаўцы) аднатавалі наступныя цэны (у злотых):

| прадукт | мера | Беласток | Бельск | Гайнаўка |
|---|---|---|---|---|
| жыта | цэнт. | 320 | 330 | 300 |
| пшаніца | цэнт. | 500 | 440 | 420 |
| яйкі | 1 шт. | 2,50 | 2,5 | 2 |
| масла | кг | 60 | 60 | 55 |
| ялавічына | кг | 35 | — | 25 |
| свініна | кг | 38 | 36 | 35 |
| сала | кг | 34 | 35 | 33 |
| бульба | цэнт. | 100 | 85 | 90 |
| цыбуля | кг | 5 | 5 | 3 |
| капуста | кг | 1,25 | 1 | 1 |
| морква | кг | 2 | 2 | 1,5 |
| буракі | кг | 2 | 2 | 1,5 |

# КІНО

Праграма
на 22—27.XI.1966 г.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Diabelska przepaść" (czeski), 22 — 23. „Profesor Mamlock" (NRD), 24—25. „Zemsta OAS" (franc.), 26—27.

**Кляшчэлі**
„Operacja Y" (radz.), 22—23, „Pożegnania" (polski), 24 — 25. „Zemsta OAS" (franc.), 26—27.

**Дубіны**
„Pociąg na tyły" (radz.), „Macario" (meksykański), 26—27.

**Нарва**
„Miłość jednej nocy" (radz.), „Dylemat" (duński), 23—27.

**Нараўка**
„Yanco" (meksykański), „Niedziela sprawiedliwości" (polski), 23—27.

**Чыжы**
„Dwie noce jednego dnia" (jugosłowiański), „Giuseppe w Warszawie" (polski), 23—27.

**Дубічы Царкоўныя**
„Mam tu swój dom" (polski), „Artysta do wszystkiego" (radziecki), 23—27.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Mam 20 lat" (radz.), „Kiermasz" (NRF), 23—27.

**Орля**
„Kanciarze i spółka akcyjna" (angl.), „Dworek 4-ech dziewcząt" (węgierski), 23—27.

**Райск**
„Kto sieje wiatr" (USA), „Dwadzieścia godzin" (radz.), 23—27.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Hamida" (NRD), „Koniec nocy" (polski), 22—25.

**Міхалова**
„Królewskie dzieci" (NRD), 22—23. „Alibi nie wystarczy" (czeski), 24—25. „Okno na lunapark" (włoski), 26—27.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Tajemnica szyfru" (rumuński), 22—23, „Dzielnica szczęścia" (rumuński), 24—25, „Miłość blondynki" (jugosł.), 26—27.

**Мілейчыцы**
„Jak się młody Noszty żenił" (jugosł.), 25—26. „Kwiecień" (polski) „Pieczone gołąbki" (polski), 27—28.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Uwaga! czarny kot" (radz.), 22—23. „Nieletni świadek" (angl.), 24—25. „Wierność" (radz.), 26—27.

**Сідра**
„Przed nami zakręt" (radz.), 22—23. „następcy tronów" (włoski), 24—25. „Złoto" (polski), 26—27.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**
„Foto Haber" (węgierski), „Gwiaździsty bilet" (radz.), 26—27.

**Ліпск**
„Lęk" (czeski), „Elektra" (franc.), 26—72.

НІВА

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP ;Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.
Nakład 6.902 Bltk. D-2



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

